*Снежань 2007- Студзень 2008*

# ГОРАД НАШ



**Грамадская ініцыятыва “За Новыя Смалявічы”**

Вось і выйшаў першы нумар інфармацыйнага бюлетэня грамадскай ініцыатывы “За Новыя Смалявічы” – “Горад Наш”.

“Горад Наш” – гэта спроба данесці да жыхароў Смалявічаў інфармацыю іншую ад той, якую можа пачуць па беларускіх каналах тэлебачання і радыё, а таксама прачытаць у друкаваных СМІ. Што тычыцца нашага раёна, то гэта інфармацыя на 80 % прысвечаная нашаму раёну, а астатнія 20% што тычыцца падзеяў рэспубліканскага маштабу, але пэўным чынам закранае наш раён і нашых жыхароў. Мы не будзем пісаць пра вялікія поспехі ў жывёлагадоўлі нашага раёна, аб першасных месцах таго ці іншага СПК па надоях малака. Бо інфармацыю такога кшталту пры вялікім жаданні вы зможаце знайсці ў выданні Смалявіцкага выканкама “Краі Смалявіцкім”

Мы будзем спрабаваць выдаваць дадзены бюлетэнь раз на месяц ці па меры неабходнасці, памерам 1-2 аркушы фармата А-3, накладам не больш за 299 экзэмпляраў (наколькі дазваляе заканадаўства).Грамадская ініцыатыва “За Новыя Смалявічы” паўстала на прыканцы 2005 года, пад час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Рашэнне аб стварэнні нейкай падобнай мясцовай ініцыатывы было прынята некалькамі асобамі, якія вырашылі абстрагавацца ад палітычных кампаній і цалкам прыкласці свае намаганні на змяненне жыцця ў лепшы бок, у сваім горадзе!Так у ініцыатыву ўвайшлі, як прадстаўнікі палітычных партый і арганізацый, а таксама палітычна незаангажаваныя людзі. Якія нарадзіліся ў Смалявічах, жывуць і працуюць у Смалявічах.



*Галоўная елка горада Смалявічы.*

***У нумары:***

## З Новым Годам!!!.

*Набліжаюцца навагоднія святы. Новы год - гэта такое свята, якога многія так доўга чакаюць і якое так хутка праходзіць. Але ж настрой у жыхароў...*

*ст..2*

## Праднавагодні падарунак ці што я думаю аб адмене ільготаў?

*17 снежня для беларусаў пачаўся новы перыяд жыцця – цяпер мы павінны вучыцца жыць без ільготаў. Пра гэта шмат казалі, пісалі, лічылі. Я б хацеў выказаць сваю думку, думку простага студэнта-платніка.*

*ст.3*

## Горад-Казка.

*Жыхарам нашага горада ўжо даўно вядома як выглядаюць вуліцы Смалявіч увосень альбо ўвесну--гэта...*

*ст..3*

## Вуліцы нашых землякоў. Альбо ці набудуць нашыя вуліцы новыя імёны.

*Смалявічы ўпершыню ўзгадваюцца ў 1448 г., у 1871 г. побач прайшла чыгунка, гэта і быў штуршок да росту нашага горада...*

*ст.4*

## Навагоднія віншаванні і пажаданні!!!

*ст.4*

*“Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду беспераашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.”*

***Арт. 19** (усеагульная дэкларацыя правоў чалавека)*

# З Новым Годам!!!

**Вось амаль што і скончыўся яшчэ адзін год, 2007 па ліку. Для некаторых гэты год быў поўны уражанняў і перамог, для некаторых, ён быў складаны і цяжкі! Але для большасьці ён паказаўся звычайным без якіх-небудзь яскравых з’яў – так паказала невялічкае апытанне, у якім было апытана 28 маладых чалавека (студэнты, выпускнікі і працоўныя ва ўзросце ад 16 да 25 год).**

Цікава, чаго чакае моладзь ад наступнага года? Каб адказаць на гэтае пытанне трэба звярнуцца да вынікаў апытання. Яно паказала, што амаль ўсе чакаюць у наступным годзе больш пазітыўнага, усяго самага лепшага і канешне грошаў, паляпшення матэрыяльнага становішча. Выпускнікі школ чакаюць добрай здачы іспытаў і паступлення. Дзяўчаты чакаюць болей пяшчоты, кахання і ўвагі з боку моцнай паловы. Некаторыя, нават, чакаюць вяселля!

Набліжаюцца навагоднія святы. Новы год - гэта такое свята, якога многія так доўга чакаюць і якое так хутка праходзіць. Але ж настрой у жыхароў не вельмі святочны! Многія кажуць, што гэта з-за атсутнасці снега на вуліцах і дзяцей на горках.

Мы вырашылі запытаць: ці падабаецца моладзі гэтае свята? Амаль што ўсе адказалі што такое свята, як Новы Год ім падабаецца! Гэта сведчыць аб тым, што гэта адно з самых папулярных святаў у зімовы перыяд, якое святкуюць ад мала да вяліка ва ўсім свеце.

Наступным пытаннем мы вырашылі даведацца: дзе ж моладзь збіраецца адзначаць свята? Адказы атрымаліся розныя. Палова адказала, што святкаваць будуць спачатку дома з сям’ёй, а пасля з сябрамі. Большая частка апытаных пакуль яшчэ не ведае, дзе дакладна буддзе святкаваць. І ёсць нават такія, якія ўвогуле не будуць адзначаць свята, ці будуць адзначаць на працы

Адсюль можна зрабіць невялічкі вывад: Новы Год – гэта свята ў коле любімых людзей з якімі кантактаваў і сябраваў на працягу года. Нас таксама цікавіла пытанне: ці хацелі бы маладыя людзі адзначыць Новы Год неяк незвычайна, па-новаму, можа па-Эўрапейску? Крыху больш за палову апытаных удзельнікаў адказала, што гэта так! Моладзі хочацца чагосьці новага, больш цікавага, незвычайнага. Трэцяя частка апытаных адказала, што жадае і надалей адзначаць традыцыйна. І толькі 3 асобы адказалі, што не ведаюць і не задумваліся над гэтым ніколі! Таксама ў адказ яны звярнуліся да нас з пытаннем: “А што вы можыце прапанаваць? І як святкуюць Новы Год у Эўрапейскіх краінах краінах?”

Каб адказаць на гэтае пытанне, мы пашукалі звесткі пра тое, як святкуюць Новы Год у эўрапейскіх краінах і вырашылі змясціць гэтую інфармацыю пасля апытання, каб кожны мог для сябе параўнаць з чымсьці!

У **Шатландыі**, напярэдадні Новага Года, падпальваюць у бочцы смалу і коцяць гэтую бочку па вуліцах. Шатландцы лічаць гэта знакам спалення Старога года. Пасля гэтага дарога Новаму году адчыненая. Лічыцца, што першы чалавек, які ўвайшоў у хату пасля наступу Новага года, прыносіць шчасце або няўдачу. Цёмнавалосы мужчына з падарункам - да шчасця.

У **Францыі** пад Новы Год запякаюць у пернік боб. А лепшы навагодні падарунак аднавяскоўцу - кола.



У **Швецыі** пад Новы Год прынята разбіваць посуд аб дзверы суседзяў. Для італьянцаў кожны Новы год патрабуе разлікаў па абавязках, а па-другое, растанні з непатрэбным халусцем. У ноч на 1 студзеня прынята з вокнаў кватэр выкідваць старую мэблю, пустыя бутэлькі і г.д., так што знаходзіцца на вуліцах у гэты час небяспечна.

Жыхары **Грэцыі** адпраўляючыся ў гасцюой святкаваць Новы год, бяруць з сабой камень, які кідаюць у парога гасціннага хаты. Калі камень цяжкі, кажуць: “Хай багацці гаспадара будуць цяжкія, як гэты камень”. А калі камень маленькі, то жадаюць: “Хай бяльмо ў воку ў гаспадара будзе такім жа маленькім, як гэты камень”.

У хатах **Баўгарыі** з набліжэннем поўначы 31 снежня на тры хвіліны гасяць агні, і надыходзіць час навагодніх пацалункаў, таямніцу якіх захоўвае цемра.

У **Румыніі** ў навагоднія пірагі прынята запякаць маленькія сюрпрызы - манеткі, парцалянавыя фігуркі, колцы, струкі горкага перцу. Знойдзенае ў піразе кальцо азначае, што Новы Год прынясе шмат шчасці. А струк перцу развесяліць усіх навакольных.

Народы Поўначы з’яўляюцца самымі цікавымі, незвычайнымі. Навагодняя ноч ператвараецца тут ва ўвасабленне пачуцця бязмернай радасці, ветлівасці. свята. Гэта і кірмаш-продаж, гэта і спартовыя змаганні, гэта і народны фальклор з прысутнасцю елкі і Дзеда Марозу, які з’яўляецца захавальнікам таямніц і сюрпрызаў у гэтую Навагоднюю ноч.

**ЗША** сустракаюць Новы Год пампезна, маляўніча і захоплена - у чаканні падарункаў ад “Санта Клаўса”. Амерыка штогод б’е ўсе рэкорды па віншавальных паштоўках і калядным падарункам.

На **Кубе** ў Новы Год гадзіны б’юць толькі 11 раз. Паколькі 12 удар прыходзіцца як раз на Новы Год, гадзінам даюць адпачыць і спакойна сустрэць свята разам са ўсімі. На Кубе перад наступам Новага Года ўвесь посуд, які ёсць у хаце, напаўняюць вадой, а пасля поўначы выплюхваюць яе на вуліцу, жадаючы, каб Новы Год быў такім жа ясным і чыстым, як вада.

**Лацінская Амерыка** суправаджае сустрэчу Новага Года вулічнымі карнаваламі, тэатралізаванымі паданнямі масавага характару.

У **Аўстраліі** турыстычныя агенцтвы на Новы год прапаноўваюць: шоў з палінезійскімі танцамі і першабытнікамі, прадстаўнікамі найстаражытнай культуры Аўстраліі; падарожжа па шкляным тунэлі, пракладзенаму ў тоўшчы вады, для прагляду насельнікаў падводнага міру Аўстраліі: акул, пахілаў, чарапах, насельнікаў каралавага рыфа і іншых марскіх жывёл.

У **Кеніі** прынята святкаваць Новы Год на вадзе. Кенійцы ў гэты дзень купаюцца ў рэках і азёрах, у Індыйскім акіяне, катаюцца на лодках, спяваюць і весяляцца.

***“НЕВЯДОМЫ”***

## Праднавагодні падарунак ці што я думаю аб адмене ільготаў?

**17 снежня для беларусаў пачаўся новы перыяд жыцця – цяпер мы павінны вучыцца жыць без ільготаў для студэнтаў і школьнікаў, а таксама без кампенсацый за сваю папярэднюю дзейнасць (ветераны працы, аўганцы і інш). Пра гэта шмат казалі, пісалі, лічылі. Я б хацеў выказаць сваю думку, думку простага “студэнта-платніка”.**

Пачнем з плюсаў. “Якія тут могуць быць плюсы?” - здзівіціся Вы! Але чыноўнікі кажуць, што зэканомленыя грошы пойдуць ў навуковую сферу. Ці добра гэта? Вельмі добра, калі гэта будзе так як кажуць. Але нешта не верыцца. Не ведаю чаму, але не верыцца. Хутчэй у Калодзішчах узнікнуць новыя хібары ў тры паверхі. Простаму насельніцтву як заўжды патрэбен імгненны эфект. Так заўседы было, яшчэ з часоў Савецкага Саюзу, нам заўжды многа абяцалі. Колькі яшчэ Мы можам чакаць?

Зараз аб мінусах са студэнцкага погляду. З адменай ільготаў мы пазбавіліся 50 адсоткавай зніжкі на праезд у гарадскім і прыгарадным траншпарце. Давайце падлічым колькі зараз будзе каштаваць адна паездка у Мінск і назад. Білет на электрычку ад Зарэчнай да Мінск-Усходняга 1760 бел. руб. у адзін бок. Жэтон метро: 600 руб. Іх таксама трэба мінімум 2. Ну і талон на аўтобус ці тралейбус. У выніку мы атрымалі 5920 бел. руб. Ці гатовы Вы аддаваць такую суму кожны дзень 5 год запар (гэта калі вучыцца у ВНУ). І гэта без уліку выдаткаў на ежу, канцтавары і інш. Можна набыць праязныя білеты тэрмінам на адзін месяц на электрычку (каля 40 тысяч), на метро (20 тысяч) і на гарадскі транспарт – аўтобус, тралейбус, трамвай (таксама каля 20 тысяч). Зноў жа падлічыўшы атрымаеце 80 тысяч бел. руб. Раней гэтая сума была у два раза меньш. А калі падумаць, што на пачатку года адбудзецца падвышэнне коштаў за праезд!!!

Я, нават, і не магу прыгадаць краіну, дзе б студэнты не мелі зніжак!!! У нашых суседзях і іншых эўрапейскіх краінах студэнты маюць зніжку на праезд. У іх моцныя студэнцкія праўсаюзы і ворганы самакіравання. Апошнім прыкладам можа быць Францыя, дзе кіраўніцтва краіны пачало праводзіць рэформу сістэмы вышэйшай адукацыі. Студэнты французкіх універсітэтаў адразу ж пачалі страйкаваць. А што робяць праўсаюзы беларускіх ВНУ: БДУ, БНТУ і іншых. Чаму яны маўчаць?

Вось так за адзін дзень беларускія парламентарыі, прыняўшы закон, пазбавілі сваіх выбаршчыкаў, сваіх суайчыннікаў ільготаў і кампесацый!!!

Напэўна, з наступнага года значна меншы конкурс у ВНУ краіны на дзённае навучанне. Калі прадставіць, што штогод бацькі ўкладаюць у адукацыю і поўнае забяспячэнне сваіх дзяцей не менш за 2000 даляраў. То не кожныя бацькі змогуць запяспечваць сваіх дзяцей на працягу 5 год навучання!...

*Студэнт-платник*

---

## ГОРАД-КАЗКА.

**Кожны чалавек жадае, каб яго жытло было цёплым, утульным і як модна зараз казаць камфартабельным. Таму мы і клапацім аб месцы, дзе жывем. Але забываемся, што і наваколлю патрэбны дагляд, бо не ўвесь жа час мы знаходзімся у сваім памяшканні, разпораз нам даводзіцца выходзіць надвор па розных справах, і тады мы заўважаем у якім жудасным стане нашыя двары, вуліцы, завулкі.**

Мы бачым тое, што не заўважаем у спешцы, калі ідзем ці вяртаемся з працы. Гэтыя словы могуць тычыцца жыхароў многіх гарадоў Беларусі, але мы з вамі пагаворым аб нашым родным горадзе -- Смалявічы. Жыхарам нашага горада ўжо даўно вядома як выглядаюць вуліцы Смалявіч увосень альбо ўвесну -- гэта сапраўднае балота. Асабліва жудаснае становішча на невялікіх вуліцах, дзе нам даводзіцца як тым свінням коўзацца ў гразі, а ўнутраны голас крычыць: “Калі ж яны пакладуць асфальт !”. Большага ж экстрыму дадае тое, што на такіх вуліцах у цёмны час сутак амаль адсутнічае вулічнае асвятлення. І вось так не адзін ужо год мы ходзім у цемры па гразі. У той час як чыноўнікі, якія павінны клапаціцца аб добраўладкаванні горада за нашыя з вамі грошы катаюцца на машынах, і іх не хвалюе гразна ці цёмна там на вуліцы, яны сядзяць у цяпле і моўчкі смяюцца з нас.



*г. Смалявічы, вул. Трудавая*

Яны не думаюць куды лепш укласці грошы падаткаплацельшчыкаў, яны кладуць іх сабе ў кішэню. Усе мы гэтым летам сутыкнуліся з сітуацыяй, калі на нашых вуліцах раптоўна знікла святло, але потым даведаліся, што гэта наш райвыканкам выконваў дэкрэт прэзідэнта аб эканоміі электраэнэргіі. Эканоміць гэта справа добрая тым больш, што мы ведаем у якім стане апынулася наша краіна з расійскай электрычнасцю. Але так як рабілі нашыя смалявіцкія чыноўнікі-”умельцы” у цывілізаваным грамадстве не робяць. Ну Бог з імі зэканомілі на нас нашыя ж грошы, дык будзьце ласкавыя пакажыце куды вы дзелі гэтыя грошы, на што іх пусцілі. Не можа ж быць, каб такія вялізныя грошы зніклі без следу. Але нажаль ніхто нам нічога не сказаў што ды як. Зэканомілі, ну зэканомілі і ўсё на гэтым. Дык колькі ж нам цярпець гэтае ашуканства ад нашых жа “народных абраннікаў”, якія павінны верай і праўдай служць нам -- народу. Ці можа яны не баяцца нас, таму што служаць камусці іншаму, а не народу. Пытанне гэтае рытарычнае, але ж і злабадзённым яно застаецца таксама...

*Зпавагай,*
*Ваш змагар за чысціню.*

# Вуліцы нашых землякоў. Альбо ці набудуць нашыя вуліцы новыя імёны.

**Смалявічы ўпершыню ўзгадваюцца ў 1448 г., у 1871 г. побач прайшла чыгунка, гэта і быў штуршок да росту нашага горада. Потым былі войны і разбурэнні, якія нажаль зцёрлі гістарычнае аблічча Смалявіч, але плёнам працы нашых продкаў горад аднаўляўся і зноў ажываў. Дарэчы будзе сказана, што цэнтрам асобнага раёну Смалявічы (тады яшчэ мястэчка) сталі у 1924 г., а ў 1968 г. райцэнтру быў прысвоены статус горада.**

На савецкі час прыпаў перыяд найбольшага росту Смалявіч і ўсе вуліцы згодна традыцыі іменавалі са згоды і пад наглядам кампартыі. Так і з’явіліся ў нас Камуністычныя, Сацыялістычныя, Працоўныя І Савецкія вуліцы, некажучы ўжо пра вуліцы названыя ў гонар якіх-небудзь угодкаў: 40, 50, 60 і г.д. год Кастрычніка. Назвы гэтых вуліц сучасным жыхарам горада ні аб чым не гавораць, толькі паіржавелыя шыльды на дамах напамінаюць нам аб нашым камуністычным мінулым. Тым часам позвішчы знакамітых ураджэнцаў Смалявіччыны “пакрываюцца пылам” на паліцы гісторыі, пра іх чамусці забылі. А сярод іх знакаміцейшыя людзі краіны, вядомыя нават за межамі нашай Беларусі. Такія як знакаміты падарожнік і заолаг Канстанцін Ельскі з в. Ляды, філолаг Эдуард Пякарскі складальнік першага “Слоўніка якуцкай мовы” з в. Пятровічы, гісторык-археолаг Аляксандр Ляўданскі з в. Юрава, беларускі астраном Гаўрыла Ціхаў, спартсмэнка Марына Лобач са Смалявіч, пісменнік Алесь Кучар з в Прудзішча, вучоны-біёлаг і прзідэнт Акадэміі навук БССР Васіль Купрэвіч і так можна працягваць вельмі доўга. А колькі нашых землякоў вызначылася на розных войнах, сярод якіх Герой Савецкага Саюза Валянцін Холад. Лёс звязаў са Смалявіччынай шмат іншых знакамітасцей: гісторык Аляксандр Здановіч, кампазітар Станіслаў Манюшка, паэт Якуб Колас. Чаму б нам нашчадкам такіх знакамітасцей не ўшанаваць іх памяць, і не надаць нашым вуліцам іх імёны, ці не заслужылі яны гэтага?

Так сталася, што ва ўсіх гарадах свету жыхары надаюць вуліцам імёны сваіх славутых землякоў, альбо людзей звязаных з гісторыяй іх горада. Дык чым мы з вамі горшыя, ці не казалі нам нашыя бацькі і дзяды ўшаноўваць памяць нашых продкаў, адзначаючы Радаўніцу і Дзяды? Дык давайце зробім наш горад утульным і каларытным, каб не было сорамна перад продкамі.

***Ваш змагар за чысціню .***

## *Навагоднія віншаванні!!!*

* * *

В Новый год за окном
Тихо падает снег,
Пусть за Вашим столом,
Будет радость и смех,
Пусть завидный успех
Ждет Вас в деле любом
И войдет без помех
Счастье в светлый ваш дом.

* * *

Ты сегодня лишь утром спать
. ляжешь,
Ну, а может быть вовсе и нет.
С новым годом мне шепотом .
. скажешь
С новым годом скажу я в ответ.
Счастья мне пожелаешь тихонько,
Тоже самое сделаю я.
Пускай будет с тобой его столько,
Сколько я не желал для себя.

* * *

Желаем Вам на Новый год
Всех радостей на свете,
Здоровья на сто лет вперед
И вам, и Вашим детям.



## *З НОВЫМ ГОДАМ!!!*

С Новым годом вас, с Новым
. счастьем!
Мы желаем вам много всего,
Чтоб ни тучки в судьбе, ни ненастье
Не смогли вам испортить его.
Желаем новогодних вам чудес
И чтобы все, как в сказке, получилось,
Чтоб только с и никогда чтоб без
И в Новый год приятное случилось.

* * *

Поздравляю с Новым годом, И желаю от души:
Пусть минуют вас невзгоды, А проблем, что не
. . решить,
Пусть не будет и в помине В наступающем году;
Счастья всем, любви и мира
И доходов по труду!

* * *

С Новым годом, друг мой дорогой,
Пусть он будет добрым и прекрасным.
Чтобы всё, о чем мечталось страстно,
Стало удивительной судьбой.

* * *

В Новый год нельзя без песен,
В песнях всё - судьба и жизнь.
Новый год всегда чудесен,
Всё забудь и веселись!

***Галоўны рэдактар :*** *Яўген Смалявіцкі*
***Мастацкі рэдактар:*** *Зорачка*
***Выдавец і заснавальнік:*** *Грамадская ініцыятыва ”За Новыя Смалявічы”*
***Адваротная сувязь: goradnasz@gmail.com***
***Тыраж:*** *299 асобнікаў*
***Распаўсюджваецца:*** *Бясплатна*